




ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

# Выбар

№ 4

Цана 40 кап. 20 лістапада 1991 года

*Інтэрв'ю карэспандэнта інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН» для «Выбара»*

Зянон ПАЗЬНЯК:

## «Урад Кебича ёсць урад банкрутаў»

*Некалькі дзён назад парламенцкая апазіцыя прыняла заяву, якую варта расцэньваць хутчэй як ультыматум. «Першым чынам,—гаворыцца ў гэтым дакуменце,—павінен пайсці ў адстаўку існуючы ўрад разам з прэм'ерам В. Кебічам. Трэба стварыць новы ўрад—урад народнага даверу». У выпадку ж, калі Вярхоўны Савет Беларусі не пойдзе на гэта апазіцыя тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі ўсенароднага рэферэндуму па наступных пытаннях: адстаўка ўраду, роспуск Вярхоўнага Савету, нечарговыя выбары, а таксама перадача маёмасці КПБ—КПСС—ЛКСМБ народу (дзяржаве) і спыненне дзейнасці КПБ—КПСС. Вакол гэтага і вялася гаворка карэспандэнта інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН» з лідэрам апазіцыі, старшынёй Сойму Беларускага народнага фронту З. Пазьняком.*

**—Зянон Станіслававіч, вы неаднаразова заяўлялі: урад Кебіча ёсць урад банкрутаў. Ці не маглі б вы аргументаваць такую канстатацыю?**

—Дык а што тут гаварыць? Гэтым усё сказана...

**—Але ўсё-такі. Выходзячы з апазіцыйнай заявы, адстаўка сённяшняга беларускага ўраду выратуе наш народ і саму Беларусь?**

—Урад ідзе ў адстаўку не таму, што гэта нешта выратуе, а таму, што ён няздольны нічога рабіць, ня можа нічога прапанаваць: як бачым, і не прапаноўвае. Ён працуе толькі ў інтарэсах пэўнага клану наменклатуры. Такіх паняццяў, як Рэспубліка, Беларусь, Незалежнасць, Дзяржава для яго проста не існуе. Ён—банкрут, ён—у тупіку.

**—Апазіцыя, я так разумею, прапануе Вярхоўнаму Савету кампраміс: або той адпраўляе ў адстаўку ўрад Кебіча, або яму самому пагражае роспуск у выніку рэферэндуму...**

—Менавіта так.

Той, хто глядзеў тэлерэпартажы з сесіі, сталі сведкамі істэрыкі папулістаў—Лукашэнкі, Булахава. Яны цяпер хочуць схавацца за спіну апазіцыі—маўляў, будзем танцуць разам. Яшчэ ў гісторыі парламентарызму не было такога, каб апазіцыя адказвала за сваіх палітычных праціўнікаў. Калі гэтая лодка топіцца, то мы толькі дапаможам ёй тапіцца. Мы аб'ектыўна ў гэтым зацікаўлены, таму што не прызнаём іхняй палітыкі.

Зараз часу амаль што не засталося. Трэба тэрмінова мяняць і прэм'ера, і астатні склад ураду. Калі Вярхоўны Савет гэтага ня зробіць, то сацыяльны выбух фактычна непазбежны, ён змяце і Вярхоўны Савет, і ўрад. Змяце самым некарысным для рэспублікі чынам.

**—Але ці варта нашаму парламенту, які гэтак сябе дыскрэдытаваў, даваць шанц заставацца ва ўладзе? Можа, лепей адразу намагацца ягонага роспуску?**

—Сутнасць у тым, што некаторыя законы, напрацаваныя Вярхоўным Саветам, па сутнасці, нядрэнныя. Напрыклад, закон аб індэксацыі мы прынялі год назад, а ў Расіі яго няма дагэтуль. Шмат добрых законаў прынятыя пад націскам апазіцыі. Яна, трэба адзначыць, унікальная, працуе ў непрафесійным Вярхоўным Савеце і ў грамадстве, у якім знішчаны палітычныя традыцыі. Таму мы не можам быць класічнай апазіцыяй заходняга тыпу. Мы—апазіцыя канструктыўная, прапаноўваем свае праекты законаў, свае канцэпцыі і змагаемся за іх. Хаця ў той жа час у нашых інтарэсах, каб цяперашні Вярхоўны Савет утапіўся. Але гэта не ў інтарэсах рэспублікі. Мы працуем канструктыўна, бо ў нас баліць сэрца за наш народ, за нашу Бацькаўшчыну, за нашу дзяржаву. Каб нас не было, паверце, гэты парламент і рэспубліка ўжо даўно сядзелі б у яме. Проста ніхто не задумваўся над роляй апазіцыі ў нашым Вярхоўным Савеце. І калі што добрае прынята, дык гэта дзякуючы апазіцыі. Але колькі адрынута, затаптана і аплявана!

**—Наколькі верагодна, што ультыматум апазіцыі будзе выкананы Вярхоўным Саветам?**

—Не будзе выкананы. Кебіч у адстаўку пойдзе, у гэтым можна не сумнявацца. Але адстаўка ягонага будзе праведзеная ў інтарэсах наменклатуры. Уся справа ў тым, што Вярхоўны Савет у сваёй наменклатурнай частцы куплены Саветам Міністраў. Тут ёсць сваё саўмінаўскае лобі. Гэта ненармальна, калі выканаўчая і заканадаўчая ўлада зрастаюцца ў мафіёзную структуру. Гэта вельмі некарысна для грамадства.

Яны ўжо самі бачаць пэўнае банкруцтва, і таму Кебіча ў адстаўку пашлюць. Але будуць намагацца паставіць на ягонае месца другога, які меней «засвяціўся».

У такі Саўмін ніхто з апазіцыі не пойдзе, гэта натуральна. Хаця мы і праводзім палітыку «малых крокаў». Калі б быў прэм'ер ад апазіцыі, прэм'ер ад народнага фронту, то ўрад мы б сфармавалі. У нас ёсць дзве кандыдатуры на гэту пасаду...

**—А іхнія прозвішчы не назавяце?**

—Пакуль не.

Пасаду Старшыні Саўміна можа заняць і «пераходная» фігура, здольная йсці на кампраміс. Магчыма, у такім разе мы маглі б заняць некаторыя пасады. Але гэта не будзе кааліцыйны ўрад, проста мы, зыходзячы з інтарэсаў рэспублікі, паслалі б некалькі чалавек, каб яны маглі ўзначаліць нейкія сферы дзейнасці.

Калі ў тым урадзе іхнюю працу блакіруюць, мы адклічам адтуль нашых прадстаўнікоў.

Справа тут не ў палітыцы, а ў лёсе народа, у лёсе Бацькаўшчыны. Яшчэ пару месяцаў такой палітыкі, якую вядзе Вярхоўны Савет, і мы ня будзем мець ні суверэнітэту, ні хлеба, нічога... Тое, што творыцца,—злачынства. Магчымасці, якія былі ў Беларусі, згубленыя на працягу апошніх месяцаў. І цяпер вось літаральна адбываецца гэтая згуба.

**—І дзе выйсце з крызісу?**

—Выйсце толькі ў адным: незалежная дзяржава павінна праводзіць незалежную палітыку. Выйсце толькі ў незалежнасці і ў свабодзе.

**—Я ўзгадваю ідэю «ценевага» кабінету. Наколькі суадносіцца яна з ультыматумам, выстаўленым апазіцыяй?**

—Ультыматум прадыктаваны не палітычнай воляй, а ацэнкай сітуацыі, якая складваецца.

І ў гэткай сітуацыі народны фронт здольны ўзяць на свае плечы адказнасць за будучыню Беларусі, гэта значыць—здольны браць уладу.

Раз мы змагаліся з камуністычнай навалай, то проста абавязаныя весці сваю барацьбу да канца...

**Гутарку вёў Алесь ЛІПАЙ, агенцтва «БелаПАН».**

## Сорамна за ветэранаў

7 лістапада я ехаў са сваім унукам на тралейбусе № 4. На прыпынку на плошчы Леніна зайшлі дзве жанчыны і мужчына пажылога ўзросту. І селі побач з намі. Адна жанчына, вельмі ўсхваляваная, прамовіла, што каб у яе быў аўтамат, то ў яе б рукі не задрыжалі, каб пастраляць усіх дэмакратаў, якія стаялі на плошчы Леніна з бела-чырвона-белым сцягам і плакатамі супраць камуністаў. Яе падтрымалі другая жанчына і мужчына, што яны таксама не супраць знішчыць іншадумцаў. Я пацікавіўся ў іх, за што ж яны б стралялі дэмакратаў. Яны адказалі, што ўжо больш як 40 гадоў з'яўляюцца членамі КПСС і не могуць цярпець такую знявагу над камуністамі, што вельмі трэба тэрмінова на ўсіх дэмакратаў Сталін. Я пацікавіўся: «А што, пры Сталіне жыць было лепш?» У гэтыя часы былі загубленыя мільёны ні ў чым не павінных людзей, разбураны помнікі культуры, храмы ператвораны ў канюшні. Калгаснікаў зрабілі бяспраўнымі рабамі, яны не мелі пашпартоў, не маглі нікуды паехаць, за сваю працу атрымлівалі пустыя працадні. Усе гэтыя довады ветэраны не хацелі нават слухаць. Яны з кулакамі накінуліся на мяне, гаворачы, што пры Сталіне загінулі толькі ворагі народа, а пра ГУЛАГі прыдумалі пісьменнікі і дэмакраты. Ад гэтага крыку мой унук спалохаўся і пачаў плакаць. Мы былі вымушаны выйсці з тралейбуса, не даехаўшы дадому. Мне вельмі сорамна за такіх ветэранаў партыі, якія здольны толькі на помсту ўсім тым, хто інакш думае, хто па-іншаму глядзіць на іх прайшоўшыя надзеі. Яны выхаваны сваёй партыяй у такім духу, што ўсіх, хто думае інакш, трэба страляць, вешаць, ссылаць, адпраўляць у «псіхушкі». Вось наглядны плён гэтай партыйнай работы я атрымаў ад ветэранаў партыі 7 лістапада.

**П. КАЗЛОЎ, пенсіянер.**



І самоту маю, і трывогу маю
не прагоніш,
Хоць і гнаў яе той, хто душой
назаўсёды
аслеп...
Ты ў вайну ратаваў, а цяпер,
а цяпер ці ўбароніш,
Маё дзіцятка роднае, мною ж
узрошчаны хлеб?
Яўгенія МАЛЕЧЭСКАЯ

*О чем не принято было раньше говорить*

# И вся номенклатурная рать...

Пусть простят мне родные и близкие умершего. Их горе неизмеримо. Это был хороший человек. Один из бывших руководителей. Однажды он откровенно признался, что слишком принимает к сердцу разносы вышестоящего начальства.

Человека не стало. Течение жизни от этого не изменилось. И раньше случалось, что уходили из нашего славного бытия начальники. Кто от старости, кто от инфаркта, а кто и от несчастного случая на охоте.

Но раньше, когда в магазинах были в свободной продаже «чернило», колбаса и властно в стране царил тоталитаризм, при котором не обязательно было вслушиваться и всматриваться в себя на предмет того, кто ... ты есть на белом свете, и кто тебя окружает, прошел бы мимо этих похорон, просто их бы не заметил.

Нынешние перемены в жизни обостряют социальную зоркость. Да, удивил и поразил меня огромный кортеж из черно-бело-серых «Волг». Примерно в полдень запрудили эти автомобили улицу в центре города. Огромная толпа собралась у одного из учреждений. Ожидали выноса тела покойного из здания, где раньше этот человек работал, притом не очень продолжительное время.

Ба! Среди толпящихся ў подъезда было немало знакомых лиц. Многие состояли в партийной номенклатуре. Их рабочее время складывалось из заседаний, указаний, написаний, телефоноговорений.

Тело покойного вынесли. Отправились на городское кладбище. Общеизвестна сложность современной дорожно-транспортной обстановки. И тем не менее для сопровождения кортежа были отвлечены два автомобиля ГАИ.

Одна милицейская машин вышла вперёд и включила мигалки. Они и напоминали прохожим, что по городу движется элита общества. Номенклатурная рать (хотела она этого или нет) наглядно демонстрировала, кому принадлежит реальная власть в городе и области.

Что же изменилось в этом довольно узком, но важном для чиновников траурно-процедурном аспекте? Пожалуй, что ничего.

Многие годы местом гражданских панихид в Витебске для избранных был бывший Дворец культуры управления бытового обслуживания населения. Так ведь? Располагали покойников (перед тем, как их отвезти на кладбище) и в других государственных учреждениях, по месту работы этих людей. А вот что-то не помню случая, чтобы с таким размахом и представительством хоронили обычного смертного — рабочего завода, служащего или колхозника. Впрочем, упаси нас, Боже, от похорон по классовому признаку. Но высокие начальники по-прежнему с шиком провожают в последний путь своих бывших коллег.

А заложили эту нашенскую процедуру в первые годы Советской власти. Историю сейчас судить незачем. Её надо знать. Говорят, что народные массы беспредельно любили Ильича. Допустим. И все же, кто к нему был и поближе, любили его ещё больше. Поэтому и воздвигнули Мавзолей на Красной площади. В итоге случился феномен, парадокс. Во все века на Руси было известно, что земле не предают умершего только в одном случае: если он этого не заслужил. А что сделали с Лениным? Правда, мумифицировали в Египте и фараонов, но, как помнится, их прятали в саркофагах в глубине пирамид, подальше от человеческого ока.

Мы раньше думали, что неиссякает поток к Мавзолею на Красной площади потому, что там лежит самый великий из великих людей. Так нас учили. Оказывается, в тех очередях на площади в нашей Белокаменной немало было и тех, которые просто любопытствовали. Сколько десятилетий продолжает удивляться цивилизованный мир неземной советской ритуальности у Мавзолея!

Так что, если вспоминать тех, кто её придумал, то скорее всего они это сделали больше не для Владимира Ильича, а для себя, чтобы и самим потом хотя бы горсткой пепла торжественно залечь под табличкой в кремлевской стене, а главное, до этого успеть пожить на этом свете за счёт народа, считавшего Мавзолей главной святыней на земле.

Подчёркнутая таким нецивилизованным образом исключительность Вождя, всегда помогала советским чиновникам думать о своей какой-то исключительности. При полном бесправии масс первое лицо в Бешенковичах чувствовало себя Лениным районного масштаба, которого, правда, не любили трудящиеся. Этому примеры свежие...

Несколько дней назад Центральное телевидение по первой программе показывало как в одной из деревень Брагинского района жители хоронили своего односельчанина. Смертники шли за гробом смертника. Здесь провожают до кладбища без мигалок, без длинных кортежей из черно-бело-серых «Волг». Сюда номенклатура почтить память взрослых и детей, убиенных советской технократической расхлябанностью не приезжает — опасно для здоровья, радиация.

Не закономерен ли итог большевизма: начинал он своё увековечение с Мавзолея на Красной площади и закончил Чернобыльской зоной — Мавзолеем мертвых и ещё живых, Мавзолеем физического геноцида народов под открытом небом? Монстр потянул за собой тысячи и в Афганистане, и поступил таким же образом все годы, начиная с 1917-го.

Стыдно слушать, когда нынешние защитники КПСС — КПБ вопиют о нарушении по отношению к ним закона. А кто разогнал с помощью обманутого народа Учредительное собрание в 1918 году? Не демократы же... Ведь свой устав и инструкции партия поставила выше законности...

И находятся (а их будет скоро ещё больше — мы ещё не дошли до беспредела в материальных невзгодах) люди, которые говорят, что при коммунистах жилось лучше. Так, на полках магазинов что-то было. Не сравнить их с голыми нынешними. А кто же привёл нас к ещё худшему? Те же коммунисты, а точнее — их партийные руководители. Ведь истинных экономических реформ в нашей стране не было. Не существует их в Беларуси и по сегодняшний день. А нравственный урон народа? Кто его восполнит?

«Уважаемые товарищи демократы! (Эти слова из письма в газету пенсионера В. Кравцова). Мне кажется вы не осознаете до конца всей ответственности момента. За историю своего существования партия большевиков-ленинцев натворила такое, что средневековая инквизиция перед ней ничто. Просто так, за здорово живешь, она не уйдет со сцены. Ваш долг перед миллионами пострадавших состоит не в том, чтобы коммунисты расставались с занятыми креслами. Суд и только суд над КПСС приведёт к справедливости.»

Не уверен, что нужен суд, что нужно искать ведьм. И партия в целом не могла быть преступной, нарушали закон, были мерзавцами её отдельные лица, которые в своих руках держали бразды правления. А вот с точки зрения справедливости, думаю вопрос ясен: КПСС — КПБ подлежит немедленному роспуску, никакой она не была общественной организацией, она всегда оставалась правящей государственной структурой, уничтожавшей демократию.

И сегодня, когда народ ещё не осознал своего грядущего, когда ещё по-настоящему не ощутил боль от укусов повышенных цен, когда ещё не понимает, что может остановится промышленность и начаться массовая безработица, так хочется сказать ему и его надежде — демократам: не становитесь на тропу революции (это уже было), объединяйтесь для эффективной парламентской борьбы, — пусть к власти придут умные, решительные реформаторы, а спросить с нынешних чиновников и прежде всего с правительства Беларуси, за дело, опять же нормальным, демократическим путём, не только можно, но и крайне нужно, не откладывая. Хотя бы, например, как это сделали недавно в Бешенковичах.

Вот какие мысли решил я высказать после лицезрения великолепного траурного кортежа по улице Ленина.

**Б. ХАМАЙДА.**

*Аб газетным радку калег*

## А што, як разбяруцца сапраўды?..

Хачу выказаць падзяку пісьменніку Уладзіміру Папковічу ды і ўсёй рэдакцыі «Народнага слова» за аб'ектыўнае асвятленне святкавання ў нашым горадзе.

Спакойна, разважліва распавядае ён аб ветэранах, як няшчасных людзях, якім «прапаганда перакруціла мазгі».

Справядліва гаворыць Ул. Папковіч і аб былых партфункцыянерах, розных кандыдатах навук, якія сапраўды ведаюць гісторыю, але нацкоўваюць маласвядомых на іншадумцаў. Пісьменнік пытаецца: ці не з аднаго гнязда яны, гэкачэпісты ды сённяшнія сустаршыні руху «За демократию, социальный прогресс и справедливость»? Адкажу яму. З аднаго!

**А. ЗАЛЕСКАЯ,**
**член гарадскога кардынацыйнага савета Аб'яднанай Дэмакратычнай партыі Беларусь.**
**г. Віцебск.**

# ЗАЯВА

## дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь

Настае крытычны час для нашай Бацькаўшчыны. 25 жніўня перамаглі дэмакратычныя ідэі Беларускага Народнага Фронту і яго прыхільнікаў, але ўсе структуры кіравання, уся ўлада на Беларусі засталіся, як і раней поўнасьцю ў руках камуністычнай наменклатуры. Савет Міністраў, узначалены былым членам бюро ЦК КПБ Вячаславам Кебічам, бязьдзейнічае і праводзіць вузкую эгаістычную палітыку ў інтарэсах кіруючай групы людзей і былога партапарату, ажыцьцяўляе незаконную прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці, не дбаючы пра народ, яго сацыяльна-эканамічнае становішча, будучыню і суверэнітэт беларускай дзяржавы.

Вярхоўны Савет, які выбраны на недэмакратычнай аснове падчас панаваньня камуністычнай «вэндэі», складаецца ў большасці з былых наменклатурных камуністаў. Ён аказаўся няздольным кантраляваць згубныя для Беларусі дзеяньні ўрада, выпрацаваць канцэпцыю дзяржаўнай палітыкі незалежнай Беларусі, прыняць законы, што адкрылі б шлях да рынку, абаранілі б уласнасьць і дабрабыт беларускага насельніцтва.

Ні Савет Міністраў, ні Вярхоўны Савет, нягледзячы на прапановы дэпутацкай Апазіцыі БНФ, не зрабілі нічога дзеля таго, каб падрыхтаваць выпуск беларускіх грошай, стварыць нацыянальную фінансава крэдытную сістэму, зрабіць захады, каб абараніць таварны рынак, пазьбегчы гіперінфляцыі, нястрыманага росту цэнаў, вывазу прадуктаў і прамысловых вырабаў зь Беларусі. Доўжыліся размовы і ашуканства.

У выніку Беларусь апынулася ў хвосьце палітыкі Расеі і балтыйскіх краінаў, стала залежнай ад разбуральных працэсаў у эканоміцы гэтых рэспублік, ад павышэньня цэнаў і эканамічнага шантажу, стала аплачваць цаной працы свайго народа балячкі чужога грамадзтва, жывіць маскоўскіх сьпекулянтаў, паўднёвыя мафіі, рынак Польшчы, Латвіі. Урад не змог забясьпечыць насельніцтва нават па талонах, якія выпусьціў дзеля гарантаванага разьмеркаваньня.

(Заканчэнне на 6 стар.).

*Ліст у Аўстралію*

# НАШ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ...

Шаноўны зямляк Алесь Алехнік, думка адказаць на Ваш ліст, надрукаваны ў нашай газеце 6 лістапада, узнікла на наступны дзень, у час мітынгу бальшавікоў у Віцебску.

Невялікая колькасць ветэранаў-камуністаў ды былыя камісары стоўпіліся ля помніка Леніну, каб засведчыць сваю вернасць таталітарнаму рэжыму. Ім раздалі крывавага колеру сцягі, і тры, чамусьці аднолькавыя, невялікія партрэцікі Леніна на палачках. Гэта было дзіўнае відовішча, але мы пакуль усцешаны, што хоць не зброю раздавалі...

Мітынг пачаўся па завядзёнцы: выслухалі гімны СССР і Рэспублікі Беларусь, а затым пачалі бажыцца ў мікрафон, што Беларусь і народ у небяспецы, і толькі яны могуць уратаваць усіх. Вінавацілі Ельцына і Гарбачова, намаганнямі якіх нібы разваліўся сацыялістычны лагер, СССР, а заадно і наменклатурнае спакойнае жыццё. Выступалі рабочы, калгаснік, яшчэ нехта, а былыя іх лідэры не выторкваліся, сталі побач. Намер зразумелы: ізноў гегемон рэвалюцыі—пралетарыят у суполцы з сялянамі павінны здабыць для іх каштаны з вогнішча перабудовы.

Словам, мітынг праходзіў, як і ў многіх гарадах Беларусі, Расіі ды іншых рэспубліках пад ненапісаны, але зразумелы многім дэвіз: вярнуць старыя добрыя для партыйцаў з рангам часіны. І не варта б мне было Вас турбаваць, каб паведаміць толькі аб гэтым.

Сур'ёзнасць моманту я адчуў, калі ўбачыў стаяўшых крыху воддаль хлопцаў з БНФ ды іншых дэмакратычных плыняў нашага краю. Адзін з іх трымаў, як і Вы, паважаны Алесь Алехнік, у 1954 годзе ў час міжнароднага антыкамуністычнага паходу, наш бел-чырвона-белы сцяг. Іншыя—самаробныя транспаранты кшталту:«Сёння свята віцебскіх ГКЧПістаў»; «Сёння толькі вар'ят можа адзначаць свята». Быў у руках аднаго і партрэт правадыра з каментарыем: «Дзяржаўны злачынец». Да беларускага нацыянальнага сцягу была прымацавана чорная стужка. Яна сведчыла, што 7 лістапада—дзень жалобы па ўсіх тых, хто страціў жыццё з прычыны дзяржаўнага перавароту ў 1917 годзе.

Не ведаю, ці варта было гэтым хлопцам рабіць свой альтэрнатыўны выхад, менавіта ў гэты дзень і час, але ўсе прысутныя на плошчы былі пастаўлены перад здзейсніўшымся фактам.

І адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Натоўп закіраваў. Да хлопцаў-дэмакратаў падыходзілі ветэраны КПСС і вінавацілі іх ва ўсіх бедах, якія зваліліся апошнім часам на краіну. Хлопцы, як умелі, тлумачылі, што часы будаўніцтва ўтапічнага сацыялізму і камунізму адышлі ў нябыт, і што цяпер трэба жыць і працаваць па тых жа чалавечых законах, якіх прытрымліваецца большасць дзяржаў свету.

А калі ветэраны КПСС, не прывучаныя пераконваць субяседніка цярплівым словам, кінуліся скумацыць самаробныя транспаранты дэмакратаў, стала відавочным, наколькі трывала ў іх свядомасці замацаваўся вобраз камісара-бальшавіка з яго вялікасцю Маўзерам у руцэ.

Неўзабаве адбылося і тое, чаго адбыцца не павінна было. Група фанатыкаў акружыла хлопца, які нёс наш бел-чырвона-белы сцяг. Змардаваныя жыццём твары, хударлявыя рукі і ніякаватая вопратка гэтых людзей сведчылі, што яны ніколі не былі партакратамі. Хто ж яны? Магчыма, былыя перадавікі вытворчасці, якім на кожным сходзе аб'яўлялі падзякі, уручалі пахвальныя лісты і нават ордэн за «добросовестный труд»!? Або былыя дворнікі, шафёры і загадчыкі абкомаўскіх і райкомаўскіх гаспадарак? Высветліць гэта мне не ўдалося, але не думаю, што гэта былі простыя камуністы. У выніку іх дзеянняў дзяржаўны сцяг Беларусі быў патаптаны. Калі дэмакрат узняў яго зноў, на ім былі плямы ад бруду. І цяпер гэта быў сцяг сораму і нядолі люду беларускага.

А ў гэты ж самы час партапаратчыкі са светлымі тварамі і пульхнымі рукамі ля самага помніка Леніну «гутарылі» з народам. Першы сакратар абкома КПБ У. Грыгор'еў распавядаў нічога не разумеючым прыхільнікам сацыялістычнага выбару аб тым, якімі шляхамі павінна ісці прыватызацыя!

І ў гэтым заключаліся парадокс адбываючагася мітынгу і трагедыя тых людзей, якія сюды прыйшлі, каб паклясціся ў вернасці ідэям Кастрычніка.

Як бачыце, паважаны Алесь Алехнік, гісторыя з бел-чырвона-белым сцягам, якая адбылася колькі гадоў таму ў вас, паўтарылася сёння ў Віцебску. Які вялікі разрыў у часе! І свядомасці?

Чакаем ад Вас весткі. Вельмі дзякуй Вам за мужныя, добрыя словы падтрымкі.

З павагай,
**рэдактар газеты «Выбар»**
**Пётр СІНЯЎСКІ.**






***АБУДЖЭННЕ. Горад Віцебск, 7 лістапада 1991 года. Фота М. МІХАЙЛАВА.***

# КРАСНОЕ И ЧЕРНОЕ

**г. Москва**

Да, прошли те времена, когда под грохот литавр, под сенью кумачовых знамен и транспарантов шествовал Великий Октябрь по всему нашему Единому и Нерушимому. Теперь не менее половины всех бывших республик главный революционный праздник вообще не отмечают. А там, где этот праздник еще не отменен по инерции, вносит он раскол в ряды граждан бывшего Союза. Вот и в Москве, хоть улицы и площади ее не расцвечены, как раньше, знаменами, состоялись в этот день два альтернативных митинга и шествия. Стиль и дух их были диаметрально противоположны, что и символизировалось противопоставлением двух цветов—красного и черного. На Лубянке впервые за все 74 года прошел митинг, посвященный памяти жертв коммунистического режима. Организован он был партиями и движениями, входящими в ассоциацию «Демократическая Россия» при активном участии Христианско-Демократического Движения. Необычно выглядела всегда суровая Лубянка в этот день. Российское знамя, воткнутое в высокий гранитный постамент посреди площади (все, что осталось от «железного Феликса»), было сегодня не одиноко. Множество трехцветных российских стягов с двухглавым орлом и без него, а также знамен разных партий и движений, приглушивших свою яркость черными траурными лентами, развевались вокруг небольшого скверика, где с прошлого года лег соловецкий камень—символ памяти во всех погибших от коммунистического террора. Лейтмотивом большинства выступлений на кратком траурном митинге было, кроме поминовения погибших, необходимость осознания прежних ошибок и заблуждений, чтобы невозможен стал новый октябрьский переворот. После молебна у соловецкого камня, вокруг которого стояли люди с зажженными свечами, крестный ход двинулся в сторону метро Кропоткинская. Там, на месте, где стоял раньше храм Христа Спасителя, был отслужен еще один молебен и панихида. Так, по-христиански, почтила демократическая Москва память прямых и косвенных жертв коммунистического переворота 1917 года.

Однако, воинственно настроенные сторонники коммунистических идей и «социалистического выбора» осквернили этот день красными знаменами, вызывающими лозунгами и революционными речами. Митинг не избавившихся от коммунистического дурмана граждан Москвы состоялся на Октябрьской площади. Оттуда не слишком густые колонны демонстрантов прошли к Красной площади, где и демонстрировали свое сильно поредевшее единство. Даже цветы к подножью Мавзолея легли. Правда, теперь уже не от имени партии и правительства, а от бывших партийных функционеров, нынешних пенсионеров, ностальгически тоскующих по прежним временам «сильной руки», «славных свершений» и «великих достижений».

Такова поляризация общества в столице, да и не только в столице Российской земли.

**Т. ПОНОМАРЕВА,**
**секретарь ЦКК Прогрессивно-Демократической партии.**

# ИМ ВСЕ ПО ПЛЕЧУ

«Они не пропадут, найдут себе место»—так обычно заканчивают телефонные разговоры читатели, которые интересуются, где устроились бывшие партаппаратчики.

Понятно, им нужно работать, кормить свои семьи. Но быть специалистами на все руки и пересесть из одних руководящих кресел в другие, не дано любому, тем более обычному человеку.

Мы публикуем список только некоторых партийных работников, называем их прежние и новые должности. Одни сменили место работы сейчас, другие—раньше, до приостановления деятельности КПСС.

Сакович В. А., секретарь обкома КПБ—начальник управления государственной экспертизы проектов и смет облисполкома.

Тарасевич В. И., второй секретарь обкома КПБ—директор Миорского мелькомбината.

Глушонок Н. И., заместитель заведующего общественно-политическим центром обкома КПБ—начальник отдела социологических исследований облисполкома.

Лемешев В. Г., парторганизатор отдела организационной работы и демократизации партийной жизни обкома КПБ—директор Витебского гортопа.

Пугачев Н. А., работник отдела партийной политики и защиты интересов крестьянства обкома КПБ—начальник отдела комитета по экономике облисполкома.

Шейко Г. А., парторганизатор отдела организационной работы и демократизации партийной жизни обкома КПБ—главный специалист отдела социальной защиты уровня жизни населения и правового обеспечения облисполкома.

Шабодалов В. И., работник отдела организационной работы и демократизации партийной жизни обкома КПБ—начальник отдела социальной защиты, уровня жизни населения и правового обеспечения облисполкома.

Пелогейко В. В., первый секретарь Полоцкого горкома КПБ—заместитель председателя Витебского горисполкома.

Григорьев М. В., второй секретарь Витебского горкома КПБ—начальник управления местной промышленности облисполкома.

Песоцкий В. С., первый секретарь Шумилинского райкома КПБ—начальник отдела внешне-экономических связей облисполкома.

Шершень П. П., первый секретарь Браславского райкома КПБ—начальник отдела топлива облисполкома.

Андрейченко В. П., первый секретарь Верхнедвинского райкома КПБ—первый заместитель председателя комитета по сельскому хозяйству и обеспечению продовольствием облисполкома.

Вот теперь и подумайте, уважаемые рабочие и крестьяне, какая произошла перемена в руководящих кадрах?

**Б. МАТВЕЕВ.**



Цар Барыс хавае камунізм.

(Малюнак з газеты «Беларускі голас», якую рэдакцыя атрымала разам з пісьмом ад нашых землякоў у Канадзе).

# Дэмакратычныя сілы яднаюцца

У грамадска-палітычным цэнтры горада Віцебска адбылося арганізацыйнае паседжанне дэмакратычных партый і рухаў горада. На ім прысутнічалі прадстаўнікі ад філій Сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускага Народнага Фронту, гарадскога клуба «За дэмакратычныя выбары», абласной асацыяцыі воінаў-афганцаў, гарадскога дэпутацкага клуба, стачкама горада, іншых партый і плыняў.

Удзельнікі паседжання абралі аргкамітэт па падрыхтоўцы агульнагарадской канферэнцыі дэмакратаў, правядзенне якой назначана на 21 снежня 1991 года.

Была сфармулявана павестка дня канферэнцыі: **«Аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь і горадзе, задачы дэмакратычных сіл па рэфармаванню грамадска-эканамічнага становішча».**

З асобнай думкай па павестцы дня канферэнцыі выступіў прадстаўнік гарадской філіі БНФ У. Плешчанка. Ён прапанаваў, як наспелае і неабходнае, паставіць пытанне: "Аб уладзе", На думку выступіўшага, сённяшнія ўладавыя структуры, перапоўненыя камуністычнай наменклатурай, няздольныя да правядзення палітычных і эканамічных рэформ.

—Актуальнасць гэтага пытання выключна важная,—зазначыў У. Плешчанка,—паколькі бяднотонае становішча насельніцтва ў горадзе, як і па ўсёй Рэспубліцы, падвяло людзей да мяжы сацыяльнага выбуху.

*Нельга маўчаць*

# Пакуль народ не прачнуўся,

## учарашнія наменклатурныя тузы спяшаюцца адхапіць у дзяржавы як мага больш

**Толькі такім прынцыпам можам мы растлумачыць маланкавыя тэмпы будаўніцтва так званых дачных домікаў у выглядзе шыкоўных асабнякоў, якія, як грыбы, сталі расці па ўсёй рэспубліцы, калі партыйна-дзяржаўная наменклатура адчула свой непазбежны крах.**

Пакуль ёсць у распараджэнні ўладарнае крэсла, не трэба месяцамі стаяць у чарзе за будаўнічымі матэрыяламі, не трэба расплачвацца бутэлькамі за тэхніку і рабочых. Можна гаварыць з высокіх трыбун пранікнёныя словы аб пакутах свайго народа і адначасова хуценька віць сабе ўтульнае гняздзечка, каб пасля пазіраць з уласнага басейна, як згаладалыя людзі будуць ірваць адзін у аднаго апошні кавалак хлеба.

Мы прыпамінаем нядаўнюю паездку ў калгас імя Чапаева Глыбоцкага раёна па пісьму адзінокай старой жанчыны. Вось ужо тры гады прайшло з таго часу, як згарэла яе хата, а яна і цяпер не мае прыстойнага жылля. Колькі паездзіла яна, каб выпрасіць хоць якія-небудзь будматэрыялы! Усё дэфіцыт. Але, аказваецца, на той жа Віцебшчыне ёсць людзі, якім і матэрыялы, і тэхніку, і рабочых «падносяць на талерачцы».

...На беразе цудоўнага возера ля вёскі Дамашкавічы з'явіліся дачныя навабудоўлі, якія ўражваюць сваім размахам.

Трох'ярусны церам, пакрыты ацынкаванай бляхай, ужо абнесены металічнай агароджай. Злосным рыкам адзываюцца на прахожых рослыя аўчаркі. Ахоўваць ёсць што. Ля дома ўзвышаюцца стосы шыферу, дошак, радыятараў ацяплення. Ля самай вады—ферма з чырвонай цэглы. Матэрыялаў, затрачаных на гэтыя апартаменты, пэўна, хапіла б не для адной бяздомнай сям'і. Але якраз бяздомным іх і не хапае. Затое хапае таму, у каго і без таго ёсць шыкоўныя кватэры ў гарадах, а кішэні набіты грашыма.

Гаспадыня катэджа не пажадала раскрыць сваё інкогніта. Яно і зразумела. Калі большасць сённяшніх дачнікаў атрымліваюць свае ўчасткі на былых балотах і няўдобіцах, то адхапіць кавалак лугу ў курортнай зоне (а злева і справа —пансіянаты «Лясное» і «Баравое») дадзена не кожнаму.

Запыт нашай камісіі па прывілеях у раёне быццам бы не атрымалі. Нам гэта знаёма. Калі пытанні ставяцца нязручныя, раптам нешта робіцца з поштай.

На месцы ўдалося выявіць толькі наступнае:

**«...исполнительный комитет Докшицкого районного Совета народных депутатов решил:**

**1. Изъять из земель совхоза «Бегомльский» 0,4 га пастбищ и предоставить эту землю в пожизненное наследуемое владение для строительства индивидуальных дач следующим гражданам:**

**Шагову Петру Николаевичу—0,1 га,**
**Сушко Сергею Федоровичу—0,1 га,**
**Соловьеву Евгению Петровичу—0,1 га,**
**Молодцову Геннадию Афанасьевичу—0,1 га.**

**2. Обязать граждан, которым выделены земельные участки под дачи, перед началом строительства согласовать с главным архитектором района проекты дач и места их расположения».**

Гэта рашэнне Докшыцкага райвыканкома ад 30 верасня 1991 года № 116. Цікава, што дачы на беразе возера да гэтага дня ўжо стаялі.

Улічваючы магчымыя збоі ў рабоце нашай пошты, свой калектыўны дэпутацкі запыт старшыні Докшыцкага райсавета народных дэпутатаў І. Падрэзу мы робім з дапамогай газеты і просім ва ўстаноўлены законам тэрмін прадаставіць нашай камісіі наступныя звесткі:

а) поўны спіс асоб, якім выдзелены дачныя ўчасткі ў ваколіцах возера з указаннем месца работы і пастаяннага месца жыхарства гэтых грамадзян;

б) растлумачыць парадак прыняцця заяў. Ці можа звяртацца з заявай аб выдзяленні дачнага ўчастка на сенажацях калгасаў раёна любы грамадзянін рэспублікі ці толькі жыхар раёна?

в) па якіх крытэрыях задавальняліся заявы аб выдзяленні ўчасткаў на беразе возера; ці вы задавальняеце ўсіх жадаючых?

г) ці з'яўляецца бераг возера ахоўнай санітарнай зонай?

Галоўнага архітэктара Докшыцкага раёна просім адказаць на наступныя пытанні:

а) ці ўзгоднены з Вамі праекты ўзведзеных вакол возера дач і месцы іх размяшчэння?

б) ці бачыце Вы парушэнне ўстаноўленага парадку пры будаўніцтве гэтых дач, і калі так, то якія меры прымалі?

в) ці адпавядаюць фактычна займаемыя дачнікамі плошчы тым, якія вызначаны райвыканкамам?

г) калі Вы далі дазвол на будаўніцтва прыбярэжных дач і калі яно пачалося фактычна?

Як вядома, будаўнічыя матэрыялы ў магазінах прадаюцца па кніжках члена садовага таварыства, а таксама ў строга вызначанай колькасці і ў парадку чаргі. Таму звяртаемся да начальніка Докшыцкага райаддзела ўнутраных спраў:

—Просім праверыць крыніцы набыцця будматэрыялаў уладальнікамі гэтых асабнякоў у адпаведнасці з існуючым заканадаўствам.

Сярод усіх дач на ўзбярэжжы асабліва вызначалася адна. Побач з будоўляй стаялі аўтамабіль «ЗІЛ», аўтакран і перасоўная бытоўка з электразабеспячэннем. Відаць, што тут завіхаюцца будаўнікі з дзяржаўнай арганізацыі. Так яно і аказалася.

—Наш аб'ект называецца «Лясное», растлумачыў прараб А. Р. Андарала.—Будуем дачны домік у парадку аказання бытавых паслуг насельніцтву. Для каго? Гэта нас не цікавіць.

Як высветлілася, прараба не цікавіць і тое, колькі каштуе «дачны домік».

—Калі пабудуем, тады і ўбачым.

У нашай практыцы гэта быў першы выпадак, калі дзяржаўная будаўнічая арганізацыя прыступіла да работы нават не маючы каштарысу. Але прыблізны кошт можна было ўявіць, прагледзеўшы палотнішчы маштабнага праекта. Дарэчы, прараб не змог сказаць, па чыйму заказу і за чые грошы выкананы праект. Сустрэліся два прозвішчы: начальнік групы і архітэктар праекта Мамацюк, вядучы інжынер Заграбельны. Спадзяёмся, што гэту недасведчанасць ліквідуе начальнік МПМК-52 К. Раслевіч, а пакуль пазнаёмімся бліжэй з «садовым домікам» для спадара «Х».

Памер дома 9 на 10 метраў, вышыня каля 9 метраў у чатырох ярусах. Другі паверх і мансарда маюцца быць з дрэва. Тут гаспадара чакаюць: гараж, электракацельня, два калідоры і тамбур (15 квадратных метраў), лазня з парылкай, басейн, дзве прыбіральні, тэраса, веранда-балкон, прыхожая, гасцёўня, кухня, сталовая, дзве спальні, кабінет. Ну, зусім нядрэнны «садовы домік» у дадатак да гарадской кватэры. Тым больш, «у парадку бытавых паслуг».

Дык усё ж, каму МПМК-52 будуе гэта гняздзечка? Знайшлася ў канторы заява:

**«Прошу построить садовый домик в счет оказания бытовых услуг. Оплату гарантирую.**

**ГРИГОРЬЕВА А. А.».**

Праўда, ні адраса, ні месца работы аўтара заявы не ўказана. Не аказалася яго і ў тыпавым дагаворы. Проста адна грамадзянка гарантавала аплату будаўніцтва садовага доміка арыенціровачным коштам 15 тысяч рублёў. І ўсё. У графе «Заказчык, паштовыя рэквізіты, нумар тэлефона» напісана толькі Грыгор'ева А. А. Відавочна, адно прозвішча настолькі выклікала давер у начальніка МПМК, што хоць на 21.Х.91 г. яна ўнесла ў касу толькі 5 тысяч рублёў, будаўнікі ўжо выканалі работ на 13 тысяч 972 рублі. За свой кошт. Авансам.

Дарэчы будзе сказана, яшчэ нават першы паверх толкам не пабудаваны. А самае дарагое—наперадзе. Пэўна, давядзецца грамадзянцы Грыгор'евай прад'яўляць дэкларацыю аб даходах, бо вылеціць кошт «садовага доміка» па сённяшніх цэнах, пэўна, тысяч гэтак у 150.

Цікава, што трэст № 2 Віцебскаблсельбуда даваў МПМК-52 на ўвесь 1991 года план платных паслуг у памеры 14 тысяч рублёў. Так што само па сабе адпадае пытанне, ці можа кожны жадаючы спадзявацца атрымаць падобную паслугу ў гэтай арганізацыі. Ды хто б адмовіўся ад такой дзяшоўкі? За пліты перакрыцця плошчай да 10 кв. м Е7-460 заплачана ўсяго па 35 рублёў 30 капеек за штуку. Мантаж гэтых пліт—па 3 рублі за кожную і г. д. Хто будаваўся, ведае—паспрабуй гэтыя пліты дастаць, кранаўшчыкі за адзін пад'ём бяруць сама меней «дзесятку». А яшчэ ж трэба было гэтыя пліты прывезці з Докшыц. Цэглу—з Віцебска і Полацка. А ўсё астатняе?

Напрошваюцца пытанні да начальніка МПМК-52 К. Раслевіча:

1) колькі рэйсаў спатрэбілася на дастаўку будматэрыялаў на гэты далёкі аб'ект? Колькі і калі заплаціла за дастаўку матэрыялаў А. А. Грыгор'ева? Звычайна, калі аказваюць паслугу насельніцтву, то бяруць па 30—40 капеек за кожны кіламетр у залежнасці ад маркі аўтамабіля;

2) колькі і калі заплаціла грамадзянка А. А. Грыгор'ева за выкарыстанне вагончыка-бытоўкі для будаўнікоў яе «садовага доміка», а таксама за электраэнергію, што спажываецца без усялякага ўліку?

3) каму яшчэ Ваша арганізацыя будавала такія «садовыя домікі» «ў парадку бытавых паслуг»?

4) ці вядзе Ваша арганізацыя будаўніцтва жылля для чарнобыльцаў, і калі так, то як захоўваюцца планавыя тэмпы будаўніцтва?

У прынцыпе адказы на некаторыя з гэтых пытанняў можна прадугадаць, калі пазнаёміцца з пастановай прэзідыума Віцебскага абласнога Савета народных дэутатаў № 115 ад 4.03.91 г.:

**«Рассмотрев заявление председателя областного Совета народных депутатов тов. Григорьева В. В. о выделении земельного участка, президиум областного Совета народных депутатов решил...»**

Што ён вырашыў, мы ўжо ведаем. Былы першы сакратар Віцебскага абкама КПБ, які праяўляў столькі клопатаў пра насельніцтва, цяпер будзе адпачываць на беразе возера. І доўга чакаць навасельля, бадай, не давядзецца. «Садовы домік» з уласным басейнам і лазняй, які будуецца быццам па заяве жонкі, расце на зайздрасць хутка.

Дамашкевічы—гэта толькі адзін маленькі куточак у нашай Беларусі. Ёсць яшчэ і Атоліна, і Гарадзішча, і 6-ы дачны пасёлак, і вёска Задвор'е ў саўгасе «Пятровічы», непадалёку ад Мінска, і многія іншыя месцы. Зразумела, наша камісія проста не можа пабываць усюды. І калі вы, абураныя тым, што не можаце купіць ліст шыферу для рамонту даху, а побач імгненна растуць шматпавярховыя асабнякі рознага роду дзеячаў, сігналізуеце ў нашу камісію, мы можам параіць толькі адно: змагайцеся за сацыяльную справядлівасць з дапамогай сваіх народных выбраннікаў законным шляхам. Каб, не дай Божа, не настаў час, калі прагучыць заклік: «Рабуй нарабаванае!»

**Віктар КУЧЫНСКІ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, Павел ХОЛАД, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, Іван ГЕРАСЮК, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, аглядальнік «Народнай газеты» па пытаннях маралі і права.**

**(«Народная газета», № 218).**

*Лес тых, кім ганарыліся*

# Забівалі ў жанчыне жанчыну...

## *А яна лічыць, што шчаслівая*

Колькі іх у нашым грамадстве жанчын, фотаздымкі якіх упрыгожвалі Дошкі гонару ці першыя палосы газетных нумароў? Колькі іх, чыімі рукамі стваралася ўсё, на чым трымаемся мы ў жыцці?

Праўдзіва, хоць і да ненатуральнасці прыгожа расказвалі аб іх журналісты, заклікалі раўняцца на іх, аддаваць даніну павагі іх працоўным рукам і заслужаным дзяржаўным узнагародам. Мы гатовыя былі паставіць ім помнікі пры жыцці, бо яны заслужылі іх, так як заслужылі і сваіх урадавых узнагарод. Але, як ва ўяўленні грамадства, так і ў маім уласным уяўленні, жыло нешта скажонае да пачварнасці, жыло тое, што лічылі мы правільным, што ўзводзілі ў ранг геройства. А менавіта: забіваючы ў жанчыне жанчыну, мы кідалі яе ў пекла вытворчасці, каб ганарыцца ёй і ўзнагароджваць яе, каб прывіць самой жанчыне ілюзорнае разуменне шчасця, а потым выправіць яе на пенсію з успамінамі аб працоўным і гераічным мінулым.

Ёсць такое разуменне шчасця і ў Раісы Іванаўны Янінай. У яе працоўнай кніжцы толькі адзін запіс: «Прынята на работу (дата)... І звольнена ў сувязі з уходам на пенсію». Працоўны стаж — 35 гадоў.

Раіса Іванаўна шчаслівая. Яе не мінула ніводная пахвальная грамата, ні адзін працоўны медаль і нават самая вышэйшая ўзнагарода краіны — ордэн Леніна. А былі ж і іншыя ўзнагароды. Напрыклад, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

— Была б лаўрэатам Ленінскай прэміі, каб стала членам камуністычнай партыі, намякалі на гэта, накіроўвалі... — уступае ў размову нявестка Аня. Пасля паўзы ўскліквае: — Ды вы на яе рукі гляньце, якія спрацаваныя... Яны ж манікюра век не ведалі...

Я гляджу на шчаслівую жанчыну, на яе рукі, бачу слёзы на вачах, і задаюся пытаннем: дык якое тое шчасце? Якой цаной дабывалася яно ў фармовачным цэху завода імя Кірава, дзе задыхнуцца можна ад графітавага пылу, аглохнуць ад звону і лязгату? Дзе не кожнаму мужчыне пад сілу такая работа.

Я думаю аб гэтым, упершыню сутыкнуўшыся з ардэнаноснай жанчынай, а Раіса Іванаўна, склаўшы на каленях спрацаваныя рукі, расказвае аб часе і аб сабе.

— Сама з Гарадоцкага раёна. Калі было чатыры гады, а брату два, ад хуткацечнага туберкулёзу памерла маці. Бацька ажаніўся. Хутка ў сям'і прыбавілася яшчэ двое дзяцей. А ў 1937 бацьку і яго братоў аб'явілі ворагамі народа. Забралі. Як толькі выжылі... Ні падтрымкі, ні дапамогі ніякай... Абуць, апрануць не было чаго. З-за гэтага і ў школу не маглі хадзіць. А потым вайна. Толькі ў 1954 годзе, калі мачыха паслала запыт на імя Варашылава, даведаліся, што бацька памёр у лагеры ў 1940 годзе.

Пасля вайны дзед забраў нас з братам у Віцебск, паступіла вучыцца на фармаўшчыцу ў фабрычна-заводское вучылішча. Адкуль я ведала, што гэта такое. Усёй групай у 20 чалавек прыйшлі на завод. Напачатку «лілі» скаварадкі, каструлі, пазней — дэталі, станкі. У 50 год на пенсію пайшла. Шкодная вытворчасць. З групы толькі двое засталося. Селікотам — прафесійным захворваннем лёгкіх хварэлі. Вельмі шкодны пыл графіту. Чатырох чалавек адхілілі ад работы. У суседнім доме з нашага ліцейнага памёр адзін. А я дык нічога. Не хварэла ніколі.

Я ўважліва разглядваю працоўныя ўзнагароды Раісы Іванаўны. А яна, нібы прыпомніўшы словы нявесткі, працягвае:

— У партыю ўступаць запрашалі многа разоў. Замоўчвала і надалей сваю біяграфію не жадала. А праўду казаць, самі ведаеце... Гэта, як у вучылішчы была, дык дзед навучыў: «Ты ў анкеце не пішы, што твой бацька асуджаны як вораг народа...» Я скрыла ўсё, калі ў камсамол уступала!..

Прывыкла да работы. Энергія нейкая была, актыўнасць. Ніводнага спектакля ў тэатры не прапускалі, ніводнай лекцыі. Замуж выйшла, муж таксама завадскі. Дзеці пайшлі. Каб водпуск дэкрэтны, ці хаця б яслі, дык гэтага і ў паміне не было. Калі паўтара месяца дзіцяці споўнілася, ды і ў суседкі такое ж, няньку на дваіх нанялі. Нельга было раскашавацца...

Я імкнуся зразумець і нічога не магу. Хадзіла у ліцейна-фармовачны цэх завода імя С. М. Кірава. Стаяла сярод лязгата і скрыгатання металу. Напоенае прамысловым пылам паветра, работа, што не паддаецца механізацыі, якая ў якасці жаночай забараняецца ў іншых краінах. Уяўляю і маладую цяжарную жанчыну, што ў грубай робе ідзе па цэху, і маладую маці з яшчэ астаткавымі пасляродавымі працэсамі ў арганізме, дзіця якой даглядае нехта чужы. І думаю, што гэта — геройства ці здзек над чалавечай сутнасцю, узведзены ў ранг рабочай доблесці і славы?

Сапраўды, многіх ахвяр патрабаваў нялёгкі пасляваенны час. Але і пасля, калі мы ўжо пабудавалі «развіты сацыялізм» і калі «ушчыльную» падыйшлі да так званага камунізму, акрамя грамат, медалёў, ордэнаў што меў працоўны чалавек і асабліва працоўная жанчына? Цэлы стос газетных і часопісных выразак з фотаздымкамі, дзе ўхваляліся яны? Так. Віншаванні да Кастрычніцкіх свят? Так, і гэта было. Ды яшчэ, каму пашанцавала, персанальная пенсія.

Такая ж пенсія мясцовага значэння і ў Раісы Іванаўны. Напачатку — 110 рублёў, цяпер — 178.

Многія ж з тых, хто кіраваў з партыйнага крэсла, яе фактычна равеснікі, атрымалі пенсіі саюзнага значэння. Праўда, таксама. Але не прыбіральшчыкамі, а рознымі дырэктарамі на некалькіх пасадах адначасова. Да таго ж, тое-сёе меюць і ад Савета ветэранаў.

Ды што зробіш, не роўна дзялілі камуністычныя багі. Каму шчасце, каму — ілюзорнасць яго. Каму па некалькі машын, а каму — ззяючая пазалотай вышэйшая ўзнагарода краіны, што зараз ляжыць схаваная у чырвонай каробачцы, напамінаючы аб «шчаслівых» трыццаці пяці гадах, аб той прафесіі, якая не пад сілу кожнаму мужчыне. Акрамя, зразумела, нашай савецкай жанчыны.

Вера АДРАДЖЭНСКАЯ.



*Чемпионки олимпийских игр, мира, Европы, абсолютные чемпионки СССР (слева направо) Тамара Лазакович, Лариса Петрик, Викентий Дмитриев, чемпионка мира, чемпионка СССР Татьяна Аржаникова, чемпионка спартакиады народов СССР, призер чемпионата страны Ирина Кирпиченко.*

*Фотомонтаж А. ГАПОНОВА.*

# І стала слава непатрэбнай...

Поўны крызіс у грамадстве наступае тады, калі разбураецца яго культура. У шырокім сэнсе — гэта і культура фізічная. Бо сапраўды, куды галоднаму і спустошанаму душой да грацыі свайго цела і нават да яго здароўя?

Сёння, змардаваным чэргамі і запляваным ліхаманкавым наменклатурным дачабудаўніцтвам, грамадзянам горада некалі нават прыпомніць грацыёзна вытанчаную постаць алімпійскай чэмпіёнкі Вольгі Корбут. Не да яе. Як і не да яго — выхавацеля славутых беларускіх спартсменак заслужанага трэнера СССР (сёння назва скасавана) Вікенція Дзмітрыевіча Дзмітрыева, які беражна захоўвае фотаздымак, дзе прэзідэнт ЗША Р. Ніксан прымае юных гімнастак з нашай краіны.

А колькі трэба было прыкласці намаганняў, каб маглі мы атрымліваць эстэтычную асалоду і ганарыцца сваімі зямлячкамі ў час іх зорных выступленняў. Сярод іх — алімпійскія чэмпіёнкі Ларыса Петрык і Тамара Лазаковіч, сярод іх — Таццяна Аржанікава, якая зараз трэнер у гэтай жа школе.

Але сёння здарылася якраз тое, што пацвярджае канчатковы крызіс у грамадстве. Адзіная ў вобласці спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая спартыўная школа, трэнерамі і гімнасткамі з якой славіўся не толькі Віцебск і не толькі Беларусь, стала нікому непатрэбнай.

У гэтым годзе тут нават не было набору спартыўна-таленавітых дзяцей. Як жа набіраць, калі з 14 трэнераў засталося толькі 7? Скарацілі. І давялося аднаму з іх ісці нават у будаўнічы кааператыў. Астатнія ж, разам з тэхнічна-абслугоўваючым персаналам, метадыстам і дырэктарам, у трывозе і разгубленасці: як складзецца лёс?

Пастановай Цэнтральнага Савета спартыўнага таварыства «Дынама» быў вызначаны пераход падобных школ на прынцып работы самастойных клубаў з уласным фінансаваннем.

— Так склалася таму, — гаворыць дырэктар М. І. Бабкін, — што ўласныя прадпрыемствы таварыства пачалі абкладаць вялікімі падаткамі. Рэспубліканскае ж «Дынама», якое пералічвала ў Цэнтральны Савет па сем мільёнаў, ад маскоўскага размеркавальніка стала атрымліваць недастаткова, каб развіваць усе віды спорту. На пленуме, што адбыўся ў Віцебску, Беларускі савет «Дынама» ставіў пытанне аб незалежнасці ад цэнтра. Аднак з гэтага нічога не выйшла. У Маскве імкнуцца змяніць шыльду, стварыць свайго роду Асацыяцыю. Такі падыход і, галоўнае, непасільныя падаткі з уласных прадпрыемстваў адбіліся і на абласных саветах таварыства. Так мы прыйшлі да стварэння клуба «Грацыя».

З цяжкасцю Мікалаю Ільічу ўдавалася на працягу года выбіваць, выпрошваць па некалькі дзесяткаў тысяч рублёў. Але, што яны, калі ўсё нястрымна даражэе, калі нельга набыць ні таго, ні іншага, калі і рамонт трэба рабіць самім. Шляхі, якія прапануюць: шукаць спонсараў, уводзіць платныя заняткі, нешта вырабляць, здаваць у арэнду спартыўную залу, — не зусім падыходзяць для школы. Не адкрываць жа, сапраўды, сталярку ці ўстанаўліваць пілараму, дзе б «гналі манету» трэнеры і дзяўчаты-гімнасткі. Не браць жа аплату з бацькоў, калі побач бясплатная школа ў сістэме народнай адукацыі.

Хаця чаму б і не? Што толькі немагчыма ў нашым грамадстве, дзе ўсе і за ўсё плацяць падаткі дзяржаве, а яна нават духоўнасць, нават фізічнае ўдасканальванне прымушае зарабляць на саміх сябе. Невыпадкова ж, разумныя галовы ад спорту падумваюць зрабіць ля гарадскога стадыёна платную аўтастаянку, а на самім полі — барахолку, каб мець прыбытак за ўваход. Спекулянты, кішэннікі, прайдзісветы — дзеля лаўраў на алімпійскіх п'едэсталах. Ці ўзвысімся толькі?

Школа пачала ліхаманкава шукаць выйсце. Звярнулася з просьбай да загадчыка гарана ўзяць яе пад крыло сістэмы народнай адукацыі. Там пагадзіліся. Але тут абласны савет «Дынама», які ў поўным аб'ёме не ў стане фінансаваць школу, запярэчыў: не аддадзім спартыўныя залы. Выходзіць: ідзіце, як стаіце, але, калі застаецеся, зарабляйце самі.

Не ведае дырэктар, як заўтра плаціць зарплату, трывожацца за свой лёс у калектыве. А ў спартыўнай зале грацыёзна ўздымаюць ножкі юныя гімнасткі — будучыня нашага вялікага спорту (?). Яны нічога не ведаюць. Элегантныя, пластычныя, гнуткія... І такія працавітыя, нягледзячы на тое, што сёння яны ўжо без харэографаў, без акампаніятараў, якія таксама скарацілі.

Але застаўся яшчэ В. Дзмітрыеў — заслужаны трэнер, заслужаны настаўнік Беларусі, Ганаровы грамадзянін горада Віцебска. Той самы Вікенцій Дзмітрыевіч, які ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэнам «Знак Пашаны», дзесяткамі розных грамат. Той самы, які трывожыцца за лёс дзяўчынак, за алімпійскі гонар і славу краіны, і якому дзяржава налічыла аж 120 рублёў пенсіі, бо яму вось-вось стукне шэсцьдзесят, аддадзеных у імя яе славы.

Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.

# ЖЕЛЕЗНОЙ РУКОЙ ЗАГОНИМ ЧЕЛОВЕЧЕСТВО К СЧАСТЬЮ!

(ЛОЗУНГ В СОЛОВЕЦКОМ КРЕМЛЕ, 1933 г.)

*Этот материал, опубликованный в городской газете «Ухта» 2 октября этого года, принес нам бывший узник сталинских лагерей, а нынче пенсионер, проживающий в Витебске, К. М. Янголенко. В течение многих лет он написал десятки заявлений в различные инстанции с просьбой оказать социальную помощь реабилитированным.*

*«Опубликуйте, пожалуйста, материал моего друга по несчастью, бывшего узника Соловков,—сказал он.—Пусть его прочитают те, кто никак не может расстаться с образом Ленина-иконы».*

Минуло около года после опубликования в 1917 году «Декрета об отмене смертной казни в Советской России», как 5 сентября 1918 года она вновь была восстановлена в более расширенных размерах, чем до революции.

В 1920 году родился зловещий термин «враги народа».

После письма В. И. Ленина народному комиссару юстиции Курскому от 17 мая 1922 года вышло постановление ВЦИК, обнародованное 1 июня 1922 года. Начался «красный террор».

В. И. Ленин писал: «Тов. Курский! По-моему, надо расширить применение расстрела с заменой высылки за границу... Террор—это средство убеждения...».

В том же постановлении утверждено создание концентрационных лагерей. Этим открылся путь для беспредельного произвола в истории человечества и невиданного геноцида против своего же народа. То, что мы—бывшие узники ленинско-сталинских лагерей—пережили сами, привело к многомиллионным людским жертвам—безвинных рабов «свободного рабоче-крестьянского государства», в котором каждый стал «хозяином»...

Создаются первые лагеря в Холмогорах, на родине великого ученого М. Ломоносова. Вскоре за Холмогорами, в июне 1923 года открывается большой лагерь на Соловецких островах.

С первого Церковного процесса начинается волна беспрерывных политических процессов. В 1926 году рождается кровожадная статья 58 с ее 14 пунктами, которая незамедлительно обрастает всяческими аббревиатурами вроде КРД, АСА, ПШ и т. д.

Лагеря, словно чума, постепенно захватывают территорию всей нашей необъятной Родины от Черного до Баренцева морей, Среднюю Азию, Сибирь, Дальний Восток, Якутию и до самого Берингова пролива. К 1950 году количество лагерей достигает 165. В двадцатых годах ОГПУ арестовывает константинопольского дельца-афериста Натана Френкеля. На Соловках Френкель обращается к руководству ГУЛАГа с предложением привлечь заключенных к труду. Он говорит: «Вам нужно забрать от узников все в первые три месяца, а потом они уже не нужны».

Его мысль, быстро нашла поддержку. Сталин оглашает строительство социализма, великих строек. Для этого необходима рабочая сила. Но страна наша бедна. Труд нужно оплачивать. Итак, единственный выход—подневольный бесплатный труд, не считаясь с человеческими жертвами. Необходимы огромные массы рабочих на лесозаготовках, на открытии новых шахт, рудников, Беломорского и иных каналов, на строительстве новых заводов, комбинатов, железнодорожных магистралей, трактов при освоении Крайнего Севера и Заполярья. Лишь одна Коми АССР, густо покрытая лагерями, занимала ГУЛАГом площадь около миллиона квадратных километров—площадь, равную двум Франциям!

С каждым годом «великие новостройки» требуют все новых пополнений, бесчисленных человеческих жертв...

1932—1933 год. Коллективизация, массовые выселения крестьян на Север. Голод на Украине и в Средней Азии. Гибель миллионов людей... Невинных людей, женщин, детей...

Война... Новые этапы «изменников Родины»... К ним причислены мирные жители приграничных районов, молодежь, попавшая в фашистскую неволю на рабский труд в Германию, огромное количество наших бедных солдат, очутившихся не по своей воле в плену, узники гитлеровских лагерей, чудом выжившие... Для всех их возвращение на Родину закончилось путевкой с большими сроками в отечественные лагеря и в большинстве—верной гибелью...

В 1933 году я попал на знаменитые Соловки, прославившиеся еще в двадцатые годы на весь мир невиданным произволом, царившим там. На Соловках уничтожалась наша интеллигенция, священнослужители, ученые, бывшие деятели-коммунисты из «ленинской гвардии», военачальники, партизаны, царские и белые офицеры и солдаты, матросы и командиры Красной Армии, создававшие с винтовкой в руках «свободное государство рабочих и крестьян».

В 1939 году из-за опасения войны с Финляндией Соловки были ликвидированы. Заключенных вывезли в северные лагеря, а больных, стариков и инвалидов погрузили на баржу «Клара», вывезли в Белое море и утопили...

После Соловков я попал на остров Вайгач в конце 1933 года. Там я получил новый срок—10 лет—якобы за подготовку захвата острова. Дело было сфабриковано администрацией лагеря. Арестовано 12 человек. Четверо расстреляны, остальные все получили по 10 лет. Почти все они погибли позже на Ухтарке или в Воркуте во время массовых истреблений политических узников спецуполномоченным из Москвы Кашкетиным и его помощниками.

Вспомним бесчисленных наших братьев и сестер по заключению, сложивших свои головы в советских застенках с 1918 года, замученных в подвалах ВЧК, ОГПУ, НКВД, погибших от голода, холода, болезней, произвола на лесозаготовках, в шахтах, на строительстве трактов и железных дорог, в этапах, на пересылках!

Вечная память невинным жертвам проклятого постановления ВЦИК от 1922 года, подписанного «самым человечным человеком и гуманистом» В. И. Лениным, положившим начало геноциду против своего же народа, продолжавшемуся почти семьдесят лет!

Помните о жертвах, о миллионах безвинных, и пусть проклятое прошлое никогда больше не вернется! Будьте бдительны!

**К. ГУРСКИЙ,**
**бывший узник Соловков, острова Вайгач и Ухтпечлага.**

Ялта—Ухта,
сентябрь—октябрь 1991 г.

# ЗАЯВА

## дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь

**(Заканчэнне. Пач. на 2 стар.).**

Апазіцыя БНФ лічыць, што неабходна як найхутчэй вызначыць сацыяльную будучыню і статус савецкага войска ў Рэспубліцы, падыходзячы да яго з пазіцый закона і павагі правоў чалавека. Аднак наменклатурны Вярхоўны Савет і Савет Міністраў адмовіліся нават разглядзець пытаньні часовага знаходжаньня Савецкай Арміі на тэрыторыі Беларусі, стварэньня беларускага войска, ваеннага міністэрства і тым самым паставілі рэспубліку перад абліччам войскова-сацыяльнага абвалу, грамадзкага канфлікту і страты незалежнасьці.

Беларускаму насельніцтву з-за такіх дзеянняў ўрада пагражае рэзкае пагаршэньне жыцьцёвых умоў, зьбядненьне, страта працоўных месцаў, развал сельскай гаспадаркі. Рэспубліка можа стаць краінай банкрутам. Беларусь апынулася на парозе сацыяльнага выбуху. І калі такі народны выбух адбудзецца, які б ён ні быў разбуральны для дзяржавы і грамадства, абурэньне людзей будзе справядлівым.

Дэпутацкая Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь застанецца заўсёды на баку народа, у якім бы цяжкім становішчы ён ні апынуўся, на баку нашых рабочых, гарадзкіх і сельскіх працаўнікоў інтэлігенцыі і студэнтаў. Няма ніякага даверу існуючаму ураду В. Кебіча і наменклатурнаму Вярхоўнаму Савету. Апазіцыя БНФ яшчэ ў 1990 годзе запатрабавала роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савета, адмовілася галасаваць за гэты Савет Міністраў, прадказваючы яго хуткае банкруцтва. Дэпутаты Апазіцыі Народнага Фронту стаяць у апазіцыі да ўсяго Вярхоўнага Савета, які зросься з пракамуністычным урадам В. Кебіча і трапіў пад уплыў саўмінаўскай наменклатуры.

Наменклатуршчыкі, адчуваюць свой хуткі канец, ліхаманкава ўладкоўваюцца, будуюць і перакупляюць дамы і дачы, прыватызуюць дзяржаўную маёмасьць, фарміруюць капіталы, сумесныя прадпрыемствы і рахункі ў банках, займаюць пасады і цёплыя месцы, каб пры першых жа ўдарах сацыяльнага грому разьбегчыся ў норы, як пацукі з тонучага карабля, у тысячы раз здрадзіўшы сваім абавязкам.

Аднак, калі падымецца хваля народнага пратэсту, мы ўпэўнены, што і дэпутаты Апазіцыі, і ўвесь дэмакратычны рух здолее ўзяць адказнасьць за будучыню Беларусі на свае плечы і дапамагчы грамадству выратавацца, выйсьці з крызісу, ажыцьцявіць неабходныя пераўтварэньні.

Першым чынам павінен будзе пайсьці ў адстаўку існуючы ўрад з прэм'ерам В. Кебічам. Трэба стварыць новы ўрад—урад народнага даверу. Народ можа атрымаць магчымасьць прымяніць палітычны націск на Вярхоўны Савет, патрабуючы неадкладнага прыняцьця новага дэмакратычнага закона аб выбарах, які даўно ўжо падрыхтаваны Апазіцыяй БНФ, і прызначэньня нечарговых выбараў у прафесійны беларускі парламент.

Калі ж ізноў усё застанецца незразумелым і будзе адкінута, тады можна тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі ўсенароднага рэферэндуму па гэтых пытаньнях—адстаўка ўрада, роспуск Вярхоўнага Савета, нечарговыя выбары, а таксама—перадача маёмасьці КПБ—КПСС—ЛКСМБ народу (дзяржаве і спыненьне дзейнасці КПБ—КПСС).

Самы вялікі наш грамадзкі набытак. які ігнаравалі камуністы і не цэніць кіруючая наменклатура—гэта незалежная дзяржава. Маючы незалежную дзяржаву, зьбярогшы і ўсталяваўшы дзяржаўны суверэнітэт, народ можа забясьпечыць сабе сацыяльную, культурную і гістарычную будучыню, ажыцьцявіць эканамічныя і палітычныя пераўтварэньні, памножыць дабрабыт. Мы не павінны дапусьціць разбурэньня грамадства і дзяржавы. Каб выйсьці з крызісу, Беларусі неабходна праводзіць палітыку незалежнай краіны.

Нам трэба рухацца да рынкавай эканомікі, усталяваўшы раўнапраўнасьць усіх формаў уласнасьці. Мы павінны пачынаць на гэтым шляху зь вёскі, ратуючы сельскую гаспадарку і сялян, збалансаваўшы падаткі і цэны, гарантуючы законам права ўласнасьці на зямлю і на тэхнічнае забесьпячэньне. Мы павінны праводзіць такую прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці, такі пераход да рынку, які забясьпечваў бы роўныя стартавыя магчымасьці для ўсіх грамадзянаў Беларусі. Мы павінны захаваць наш таварны рынак, эканоміку ад разбурэньня і ўвесьці сваю валюту—беларускі талер, а на падрыхтоўчы перыяд—пераходныя грошы (купоны). Мы павінны ажыцьцяўляць канцэпцыю незалежнай беларускай дзяржавы як свабоднай еўрапейскай краіны. Нам трэба пазьбягаць усялякіх саюзаў і супольнасцяў, што вядуць да рэанімацыі СССР, да стварэньня унітарнай дзяржавы, да эканамічнай залежнасці Беларусі, збаўляцца ад вынікаў бальшавіцкага імперыялізму і савецкага каланіялізму. Мы павінны ажыцьцяўляць канцэпцыю актыўнай, партнёрскай, накіраванай ва ўсе бакі міжнароднай палітыкі, каб дасягнуць міжнароднага прызнання і супрацоўніцтва. Нам, імкнучыся да нейтральнай бязьядзернай дзяржавы, трэба ажыцьцяўляць сваю палітыку на аснове двухбаковых, а не блокавых пагадненьняў, нам трэба гандляваць.

Ніякая наменклатура, ніякая палітычная ці мафіёзная сіла ніколі не «накарміла» і не «накорміць» народ і нічога яму дасьць. Задача ў тым, каб даць магчымасць людзям свабодна працаваць на сябе, распараджацца прадуктамі сваёй працы, мець уласнасьць і ўсе правы, абароненыя законам, тады народ накорміць і сябе і грамадства, створыць усё, у чым будзе патрэба.

**З.ПАЗЬНЯК, В. ГОЛУБЕЎ, С.НАВУМЧЫК, І. ПЫРХ, Г. СЯМДЗЯНАВА, Я. НОВІКАЎ, Л. БАРШЧЭЎСКІ, Л. ЗДАНЕВІЧ, С. ПАПКОЎ, В. ГОЛУБОВІЧ, С. АНТОНЧЫК, В. АЛАМПІЕЎ, Б. ГЮНТАР, І. ГЕРМЯНЧУК, М. АКСАМІТ, Л. ДЗЕЙКА, М. КРЫЖАНОЎСКІ, А. ШУТ, П. ХОЛАД., У. СТАНКЕВІЧ, Л. ЗЬВЕРАЎ, С. БАБАЧОНАК, А. ПАРУЛЬ, Я. ГЛУШКЕВІЧ, Г. МАІСЕЕЎ, У. НОВІК, С. СЛАБЧАНКА, А. КАНЦЭВІЧ, В. СЯРДЗЮК, М. МАЦЮШОНАК, Ю. БЕЛЕНЬКІ, Л. ТАРАСЕНКА, Г. ГРУШАВЫ, У. ЗАБЛОЦКІ.**

*На что тратим жизнь*

# ШЕСТЬ ЧАСОВ В ОЧЕРЕДИ ЗА ТЮЛЕМ

Очереди в нашем городе имеются ежедневно на любой случай жизни. Нужны тебе, скажем, шнурки к ботинкам... Никаких проблем! Становись в затылок к товарищу и жди. Цены еще нет, а очереди уже давно свободные. Демократические. И не бюрократические. Ни тебе заявления писать, ни ковер в приемной затаптывать. Захотел, подошел и стал. Притом в любую, и самую длинную в области. Витебскую. За хлебом, колбасой, кизмой, кирпичом...

Вот я недавно шел по улице и подбирал себе очередь по душе. Ювелирную прошел—денег маловато. Водочную также. Силенок после работы в ночную смену не хватит на борьбу с внеочередниками. Селедочную прошел, хлебную, табачную...

Стал в универмаге в тюлевую. Тюля еще нет, а очередь с утра живет. Дышит, растет, движется. Словом, единый одушевленный организм. С головой и хвостом. Только очень длинный. Зато разговаривают одновременно голова, хвост и середина. Чем не сказочный, утопический персонаж. Уродливое дитя социндустрии и тоталитаризма. И беспризорное. Ибо оно не знает, кто его породил, отсюда и разговор головы с хвостом носит содержание дум кухарки, которая не справилась с задачей, поставленной перед ней Ильичом. Но по-житейски разговор верный. Даже мудрый.

Вот голова очереди стала сомневаться: «А вдруг не завезут сегодня тюль! Фарцы не видно. А она, как известно, всегда знает, что, где и когда выбросят на витебский прилавок. Узнать бы, кто дает ей информацию! А вообще-то фарца у нас замечательная. Бывшие комсомольцы. Скажи Зимний взять—возьмут. За бутылку, конечно».

Голова в таком духе порассуждала немного, притихла, легла на прилавок и уснула. Зато взвился хвост. Доколе, мол, такое издевательство демократов над народом терпеть можно. Шесть лет назад в магазинах полки трещали...

—От брежневских книг,—съехидничала середина. —А демократы у нас еще и дня у власти не были. Управляют все те же, что и шесть лет назад.

—Бомбу на вас надо, умных и хитрых, партократов, аристократов и демократов!—процедил хвост. —Атомную. Тогда два метра тюля и два метра земли без очереди выделят.

Тем временем вокруг одна за одной рождались, в муках жили новые очереди. За резинками к трусам, стиральным порошком, мылом, пуговицами. И с облегчением умирали, распадались от единственной фразы продавца: «Все, товара больше нет».

А очередь за тюлем жила надеждой. Когда опустился универмаговский грузовой лифт, она напряглась, изготовилась. Люди похватали поставленные на пол сумки, чтобы в случае, если товар будут давать с другого прилавка отдела тканей, вовремя перебежать туда.

Но лифт привез товары для других отделов. И голова, которая уже пятый час впустую билась о прилавок, обалдело оглядывая середину и закрутившийся вокруг нее хвост, тихонько рассуждала: «Кошмарный сон. Но если такое в нашей жизни есть, значит это кому-то нужно. Кому!»

—Разумеется, не нам,—отозвалась середина. —Лично я думаю, нужно это нынешней городской власти.

—Ей то зачем!—воинственно спросил хвост.

—Не знаю. Наверное, чтобы народ обозлить до предела. А потом умело его гнев направить в нужное им русло. Ведь так уже было...—разъяснила середина.

—Смелая мысль!—похвалил прохожий покупатель. —Но опасная. Если бы услышал ленинец, он бы тебя к стенке поставил.

—Прошли их времена,—возразила середина.

—Не скажите! Рабочий класс еще своего слова не сказал!—пригрозил демократической середине хвост.

В таком духе разговаривали, перебранивались «голова», «хвост» да «середина» шесть часов. И никто из администрации универмага не додумался предупредить очередь, что тюль не завезут. Если не знали сами, надо было узнать. Позвонить, съездить, сбегать на базу. Позаботиться надо было о «дорогих соотечественниках», как теперь ласково называют народ бывшие партократы праздники.

Словом, не отоварил я в тот день талон на тюль. Но потратив напрасно шесть часов времени, стал иными глазами смотреть на очереди. В тот день, 4 ноября, в отделе тканей 5 или 6 продавцов, можно сказать, бездельничали, в тоже время рядом люди давились за молниями, стиральным порошком...

Есть еще одна форма очереди, я бы сказал тайная. К примеру, в магазине «Спорттовары» на мототехнику запись производилась летом прошлого года всего один месяц. Без широкой огласки. Сегодня магазин фактически работает на обслуживание той очереди. И семейный талон здесь имеет силу только в том случае, если фамилия покупателя значится в списке-очереди у завмага.

Так, может быть, правы люди, которые утверждают, что если очереди есть, значит, это кому-то нужно!

П. СИНЯВСКИЙ.



*Інцыдэнт*

# «...І ляжаш трупам»

**Старшыні Чашніцкага райвыканкома народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь тав. М. В. Васілеўскаму**

Доўгі час ветэраны вайны і працы г. Чашнікі дабіваліся адкрыцця магазіна «Ветэран», Нарэшце, у 1990 годзе яго адкрылі. Аднак работа магазіна вельмі нездавальняючая. Папершае, абслугоўвае ён і іншыя катэгорыі насельніцтва. Да таго ж, стаў складам па забеспячэнню харчпрадуктамі закрытых устаноў. Па-другое, ветэранаў атаварваюць мясам і каўбаснымі вырабамі вытворчасці мясцовага каапнарыхтоўпрама.

Узнікае пытанне, куды ж уходзіць прадукцыя з фондаў Віцебскага аблвыканкома, якая прызначана для гэтых мэтаў? Адказ зразумелы: яна ідзе на забеспячэнне раённай наменклатуры, высокапастаўленых асоб раёна, работнікаў гандлю. Магазін «Ветэран» стаў па сутнасці справы пунктам забеспячэння раённай «вярхушкі», а не для абслугоўвання тых, для каго ён прызначаны.

Бытавая камісія раённага Савета ветэранаў у сувязі са скаргамі інвалідаў вайны і працы рашыла выказаць свае заўвагі кіраўніцтву Чашніцкага райспажыўсаюза. З гэтай мэтай члены камісіі А. В. Галавач, В. Г. Білюкоў і М. Н. Савельеў разам в Вамі, тав. Васілеўскі, і старшынёй райспажыўсаюза М. П. Гаўрыленкам прыбылі ў магазін «Ветэран».

Члены камісіі пачалі выказваць справядлівыя заўвагі па рабоце магазіна. Аднак, старшыня райспажыўсаюза заявіў, што ён нічога не хоча слухаць. Тады т. Білюкоў заўважыў, што ён, як пайшчык, мае права рабіць заўвагі і прапановы. На гэта Гаўрыленка адрэагаваў імгненна. «Зараз дам у морду!»—заявіў гандлёвы начальнік. Сустрэчна В. Г. Білюкоў напомніў у прысутнасці іншых, што пасля такіх слоў т. Гаўрыленка не мае маральнага права быць кіраўніком, што ён не клапоціцца аб ветэранах, а толькі забяспечвае таварамі тых, хто вывозіць іх для продажу ў Польшчу.

Гаўрыленка літаральна ўскіпеў. «Яшчэ адно слова—і ляжаш трупам!»—выкрыкнуў ён і выйшаў з магазіна.

Гэты інцыдэнт адбываўся, таварыш народны дэпутат, у Вашай прысутнасці. Вы ўсё чулі і абяцалі разабрацца са старшынёй райспажыўсаюза. Аднак да гэтага часу ніякіх мераў не прынялі.

Пагэтаму просім Вас:

1. Прыняць дзейсныя меры па паляпшэнню работы магазіна «Ветэран».

2. Дабіцца вызвалення М. П. Гаўрыленкі ад займаемай пасады старшыні Чашніцкага райспажыўсаюза, як не маючага маральнага права на такую пасаду.

г. Чашнікі. ГАРАДСКІ САВЕТ ВЕТЭРАНАЎ.

*Нарэшце*

## Бывай, «Ленінская праўда»!

Пасля бурнае палемікі ў нашым друку аб неабходнасці дэідэалагізацыі вучэбнага працэсу ў навучальных установах Рэспублікі ўрэшце адбыліся пэўныя змены. Амаль цалкам, напрыклад, ліквідуецца вывучэнне твораў беларускай літаратуры яўна тэндэнцыйнага характару (скажам, казка «Ленінская праўда» у 5 класе сярэдняй школы), поўнасцю выкінуты з літаратуразнаўчага курсу працы Леніна. Скарочана колькасць гадзін на шэраг твораў «сацрэалістычнай літаратуры савецкага часу». Памяняўся і галоўны прынцып вывучэння матэрыялу: з рэвалюцыйна-гістарычнага на нацыянальна-гістарычны.

Ю. ТУТЭЙШЫ.

# Кому нужны многотиражки?

В настоящее время, согласно данным, полученным мной около 10 промышленных и строительных организаций Витебска издают свои печатные органы.

В длинном списке многотиражек: «Машиностроитель», «Рабочее слово», «Строитель», «Кимовец», «Знамя строителя»... На каждую такую газету, тиражом от 1000 до примерно 2500 экземпляров учредители затрачивают в год десятки тысяч рублей. А что получают взамен? Многотиражки сами себя никогда не окупали.

Что имеют от этих газет читатели, которых утомляют длинные и нудные статьи на производственные темы, где приводится масса ненужных сухих цифр, дают заумные интервью руководители местного масштаба.

Что получают за свой бренный труд журналисты, изо всех сил старающиеся забить чем попало номера кровных горе-изданий? 300-400 рублей—не больше.

Если раньше издавать многотиражные газеты было «престижно», то теперь это просто стало невыгодным делом, которое в условиях перехода к рынку заранее обречено на гибель.

У подписчиков появился широкий выбор областных и городских газет. Монополиста «Віцебскі рабочы» потеснили «Витьбичи», «Витебский курьер», «Народное слово», «Выбар». Между ними сейчас идет напряженная борьба за читателя. Конкуренция заставила работать журналистов оперативно и профессионально, чего как раз и не хватает многотиражкам.

Из всего этого напрашивается вывод: «Закрыть. Не одобрям!» Решать это придется тем, у кого профкомы забирают честно заработанные рубли, которые идут на содержание многотиражных потоков.

А. ПУКШАНСКИЙ, журналист.



Чудо-зеркальце, скажи...
Витебский р-н.
Фото **А. Гапонова.**

# ПИСЬМО ИЗ ИЗРАИЛЯ

18.09.91 г.

Здравствуйте, дорогие М., М. и Г.

Сегодня праздник—Ем (день) Кипур-судный день. Вся жизнь в Израиле замерла со вчерашнего вечера. Не работает радио, телевидение, предприятия, транспорт. Сегодня великий пост, но постит одна Р. Она дала зарок, что это позволит ей в будущем году поехать в Витебск.

Уже середина сентября, а у нас по-прежнему жарко, температура в иные дни достигает +31°С. Когда слушаем прогноз погоды и узнаем, что в Белоруссии 13-15°С, это вызывает у нас зависть.

А теперь о главном. Весь месяц мы вместе с вами переживали те события, которые начались 19 августа. В первые дни после путча израильское радио на русском языке почти все эфирное время вещало о Союзе. Помимо этого, я постоянно слушал и слушаю передачи Всемирного московского радио, «Свободу» и другие станции, так что постоянно в курсе событий. Пережили мы все немало тяжелых минут, волновались за вас всех, страну и особенно за евреев. Меня и теперь волнует, как в дальнейшем будут развиваться события в Союзе, Белоруссии, в Витебске больше, чем то, что происходит здесь. Я нахожу утешение в том, что наших советских евреев здесь немало, есть с кем общаться.

Материальное положение наше хорошее. Мы имеем постоянную работу и неплохо зарабатываем. Х. работал полгода, а сейчас будет получать пособие по безработице—74% от заработной платы в течение полугода. Найти работу здесь очень сложно. Много безработных и живут они на пособие. Но в целом нам лично жаловаться грешно. За этот год мы восполнили все потери, связанные с переездом сюда из Союза, кроме квартиры. Даже имеем уже кое-какие сбережения. Заключили на второй год договор на съем квартиры. Большую часть денег за нее нам оплачивают.

Два слова о себе могу сказать кратко: жизнь надо заканчивать там, где родился и жил. Это не только мое мнение.

Меня интересует, что изменилось в жизни евреев после августовских событий. Как живется без компартии? Что нового в городе и в Белоруссии? Кто из знакомых выехал в Израиль?

И последнее, может, это и не совсем реально планировать на будущее, но мы намерены в следующем году приехать в гости в Витебск. Так что, даст Бог, свидимся, будет о чем поговорить.

**Ваш Б.**

## *Веселый глобус*

*—Осмотрев ваш глаз, я понял, что у вас болезнь нервной системы и печени, ожирение сердца и плохое кровообращение.*

*Доктор, посмотрите другой глаз, этот—стеклянный.*

* * *

*—Моя дочь проглотила золотую монету и теперь должна подвергнуться операции. Меня интересует, можно ли доверять доктору Робинсону?*

*—Несомненно. Он—честный человек.*

* * *

*—Скажите, доктор, вы удаляете зубы без боли?*

*—Не всегда. Вчера, например, я чуть не вывихнул руку.*

*Впервые в республике*

# Чудо-катэтор

Клиническая медсанчасть строительных организаций предлагает жителям г. Витебска и области современные и оригинальные методики лечения заболеваний уха, горла, носа.

Впервые в республике используется беспункционный метод лечения воспалительных процессов гайморовых пазух посредством синус-катетора «ЯРМИК»—совместного российско-французского производства.

Разработанные оригинальные методики лечения хронического тонзиллита, хронических воспалительных и аллергических заболеваний носа.

Кроме того, в лечении ЛОР-патологии используется ультрафиолетовое облучение крови, лазерное облучение слизистых верхних дыхательных путей и крови, фитотерапия, ультразвуковое хирургическое лечение ЛОР-патологии.

**Обращаться по адресу:** пр. Черняховского, 11-62, Воронович Владимир Петрович. Тел. 2-00-61.

## *Карацелькі*

Я сам магу ўсё рабіць у кватэры. Я нават сам вялікія шафы навучыўся перасоўваць, праўда, з дапамогай жонкі.

Яна цягне, а я кірую.

* * *

Муж разглядвае кулінарную кнігу і захапляецца. «Ах! Як прыгожа намалявана. Вось вяндліна, а вось яшчэ далікатэс. Што ні кажы, а смачна. І дзед мой бачыў, як пан еў, дык казаў, от смачна!»

**К. САВУНЕВІЧ.**

# К СВЕДЕНИЮ ИЗБИРАТЕЛЕЙ

28 ноября этого года в 18.30 в городском Доме культуры (ул. Маяковского, 1) выступит председатель рады Витебской городской филии Белорусской социал-демократической громады, кандидат экономических наук В. Г. ДУБОВЕЦ.

Тема выступления: «Приватизация и разгосударствление государственного имущества».

Вход свободный.

**Совет городского клуба избирателей.**

*«Вера происходит от слышания слов Христа»*
*Апостол* ***ПАВЕЛ***

# АНТЕННА

**ОБЩЕЕ РАСПИСАНИЕ РУССКОГО И БЕЛОРУССКОГО ХРИСТИАНСКОГО РАДИОВЕЩАНИЯ ТРАНСМИРОВОГО РАДИО**

**с 29 сентября 1991—по 28 марта 1992 г.**

TWR **«Трансмировое радио», Монте-Карло, Монако: ВР 349, МС-98007 MONACO (МОНАКО) КВ 31 м 9495 кГц.**
**Вещание на европейскую часть СССР**

| | Понедельник | Вторник | Среда | Четверг | Пятница | Суббота | Воскресенье |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 17.15 | Детский уголок | Детский уголок | Детский уголок | Детский уголок | Детский уголок | Луч надежды | Ваша семья |
| 17.30 | Возвращение | Евангельские беседы | Евангельские беседы | Евангельские беседы | Евангельские беседы | Мессия и избр. народ | Семья Каратаевых |
| 17.45 | к Богу | Тихие воды | Вопросы веры | Почтовый ящик-150 | Маяк надежды | Актуально-Насущно | |
| 18.00 18.15 | Новая жизнь | Христос молодёжи | **Белорусская передача** | Вера и жизнь | Золотые колосья | | |
| 18.30 | Библейские лекции | Библейские лекции | Библейские лекции | Библейские лекции | Библейские лекции | | |

**КВ 49 м 6215 кГц. Вещание на европейскую часть СССР**

| | Понедельник | Вторник | Среда | Четверг | Пятница | Суббота | Воскресенье |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 20.30 | Детский уголок | Детский уголок | Детский уголок | Детский уголок | Детский уголок | Луч надежды | Семья Каратаевых |
| 20.45 | Голос ев. вести | Евангельские беседы | Евангельские беседы | Евангельские беседы | Евангельские беседы | Слово жизни | Светлый луч Евангелия |
| 21.00 | По страницам Библии | Тихие воды | Вопросы веры | Почтовый ящик-150 | Маяк надежды | | Возвращение к Богу |
| 21.30 | Библейский р-класс | | Живое слово | Эхо юности | Час решения | | Благовест |
| 21.45 | | | | Веслинский час | Голос друга | | |
| 22.00 | Авиапочта | Культура и религия | Поиски и открытия | Беседы по душам | Удивительно, но факт | В мире природы | |

**Следующий номер газеты выйдет 4 декабря.**



*УЧРЕДИТЕЛЬ:*
*Витебский городской клуб избирателей «За демократические выборы».*

**Главный редактор**
**Леонид ЦВИКА**

Художники П. Козич, Г. Кликушин.
Фотографии А. Гапонова, М. Михайлова.
Макет номера В. Челнокова.
Временный адрес редакции: 210026, г. Витебск, ул. Маяковского, 1.

**Авторы опубликованных материалов несут ответственность за подбор и точность приведенных фактов, цитат, экономико-статистических данных, имен собственных, географических названий и прочих сведений, а также за то, что в материалах не содержится данных, не подлежащих открытой публикации.**

**Редакция может опубликовать статьи в порядке обсуждения, не разделяя точку зрения автора.**

Рукописи не возвращаются и не рецензируются.

Текущий счет редакции № 200700962 в Витебском коммерческом банке («Витькомбанк»). Код (МФО) банка 405014.

Газета набрана и отпечатана офсетным способом в Витебской укрупненной типографии им. Коминтерна: гор. Витебск, ул. Щербакова-Набережная, 6.

Полиграфисты: **В. Корунас, Л. Волкова, Л. Дроздова, А. Каспорович, Д. Малышев, Б. Платовский, И. Иванов.**

Номер подписан к печати 19.11.91 г. в 17.15.

Зак. 6448. Тираж 2500.

*Цена 40 коп.*